# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1574) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 13 ЛІПЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## Беларусы на Сямяцічыне

Гісторыкі і археолагі ўжо бясспрэчна даказалі, што паселішчы пляменаў, якія з'яўляюцца нашымі продкамі, сваім абсягам даходзілі аж за Белую Падляшскую, Седльцы і Лукаў. Адным словам, беларусы здаўна жылі па абодвух баках ракі Буг. Толькі шмат пазней — у выніку шматлікіх войнаў і масавых хвароб, у выніку мангола-татарскіх нашэсцяў — зямля гэтая ў значнай ступені апусцела і на пустэчы пачалі наплываць, між іншымі, ад захаду і мазаўшане. След ад гэтага захаваўся і да сёння ў этнічна змешаных польска-беларускіх вёсках. Адносіцца гэта ў першую чаргу да наваколляў Бранска, Гродзіска, Дзядковіцаў, Сямяціч, Драгічына і Цеханоўца.

На жаль, у выніку асіміляцыі, якая праходзіць, хаця без аніякага прымусу, але ўсё шпарчэй ды шпарчэй, беларуская нацыянальнасць пастаянна знаходзіцца тут у адступленні. Такім чынам, неабходна тут у першую чаргу актывізаваць культурна-асветную беларускую дзейнасць.

Скромны пачатак ужо зроблены. У рамках цэлатыднёвых V Сямяціцкіх дзён культуры, субота, 17 мая, была прызначана на паказ культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Гэтага дабіўся Міхась Вішанка — працаўнік Галоўнага праўлення БГКТ і вядомы тутэйшы дзеяч на беларускай ніве.

**У Сямяціцкім асяродку культуры выступіў эстрадны паэтычна-музычны калектыў Бельскага дома культуры. Калектыў гэты працуе пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Морданя. Праграма яго эстраднай пастаноўкі заснавана на творах нашых „белавежцаў". Ян Мордань стараецца пераканаць сваіх гледачоў, каб яны даражылі мовай бацькоў, каб цанілі сваю спадчыну.**

У Сямяціцкім асяродку культуры раней яшчэ адбылося ўрачыстае пасяджэнне аддзела БГКТ, у якім прынялі ўдзел намеснік старшыні прэзідыума ГП БГКТ Кастусь Майсеня і сакратар ГП БГКТ Віталій Луба. Гарадскія ўлады горада Сямяцічы прадстаўляў старшыня Гарадской рады народовай Мечыслаў Матосюк, які верна спадарожнічаў усім мерапрыемствам беларускага Дня ў Сямяцічах, хаця сам з'яўляецца карэнным палякам.

Старшыня праўлення аддзела Мікалай Касцюк выступіў з ка-

(Працяг на стар. 4)



Фота Я. Целушэцкага.

## НОВАЕ Ў АРЛЯНСКАЙ ГМІНЕ

Зараз амаль кожную суботу і нядзелю жыхары **Орлі** выходзяць на грамадскі пачын. Рамантуюць вуліцы Кляшчэлеўскую і А. Міцкевіча. Сёлетняй восенню на іх будзе пакладзены асфальт. У мінулым годзе асфальтам пакрылі вул. Арміі Чырвонай і вул. К. Свярчэўскага.

Не адстаюць у грамадскіх пачынах жыхары навакольных вёсак: **Пашкоўшчыны, Крывой** і **Кашалёў**. У Пашкоўшчыне не было святліцы. Жыхары разабралі і перавезлі ў сваю вёску адзін з ліквідаваных драўляных дамоў у Бельску Падляшскім. Такім чынам ужо маюць вясковы дом культуры. У Крывой праклалі тратуары. Жвіровыя дарогі будуюць сяляне з **Маскоўцаў, Алекшаў** і **Волькі Выгапоўскай**. Кашалёўцы адрамантавалі святліцу ды пабудавалі спартпляцоўку. Таксама ўласнымі сіламі, у грамадскім пачыне. Ад 1 чэрвеня бягучага года ў вёску Спічкі ездзіць аўтобус ПКС.

У Орлі пачалася пабудова школы. Будзе ў ёй шаснаццаць класных залаў, палітэхнічныя майстэрні і спартыўны зал. Побач школы пабудуюць жыллёвы будынак для настаўніцкіх сем'яў. Школьныя аб'екты будуе Бельскападляшскае камунальнае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства. Грамадскі камітэт пабудовы школы сабраў дагэтуль больш мільёна злотых. Сярод ахвярадаўцаў вылучыліся, між іншым, мясцовы сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў, спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў і гурток паляўнічых „Арол".

У чэрвені мінулага года распачалі рамонт даўнішняга збору (сінагогі). У гэтым будынку будуць памяшканні для гміннага асяродка культуры (ГОК). За пяць гадоў — як прадбачваецца — адкрыюць тут кіно, бібліятэку, чытальню і клуб.

У 1988 годзе ў Орлі распачнуць пабудову асяродка здароўя і аптэкі.

Я. Целушэцкі




## Пра блізкае нам

Няма такой дзялянкі ў нашым жыцці, якой найважнейшыя справы не закраналіся б на X з'ездзе ПАРП і якой не датычацца прынятыя на ім рашэнні. Сярод іх ёсць таксама і асабліва блізкія нашаму асяроддзю. Прыпомнім асноўныя з іх.

„Краевугольным каменем нашай замежнай палітыкі з'яўляецца непарыўны саюз і дружба з Савецкім Саюзам, — падкрэсліў Першы сакратар Войцех Ярузельскі ў дакладзе X з'езду ПАРП. — Гэта гістарычнае дасягненне нашых народаў. Мінулае запісала разнастайныя старонкі. Лёсы палякаў, рускіх, украінцаў, беларусаў, літоўцаў нераз спляталіся ў трагічны вузел. Тыя раздзелы гісторыі ўжо назаўсёды закрыты. У гэтым гістарычная заслуга нашых партый — Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Сацыялізм адкрыў перад намі новыя гарызонты. Мацнеюць дружба і давер, знітаваныя аднолькавымі мірнымі імкненнямі, дасягненнямі ўсебаковага супрацоўніцтва, дадзенай нам у найцяжэйшых хвілінах дапамогай".

Для ўсіх членаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, для ўсіх беларусаў у Польшчы гэтыя сцвярджанні маюць асаблівую каштоўнасць, бо ўсе мы — шчырыя прыхільнікі братэрскай еднасці Народнай Польшчы і Савецкага Саюза.

**У дакладзе, між іншым, была дадзена высокая ацэнка Патрыятычнаму руху нацыянальнага адраджэння за яго дагэтуляшнюю ахвярную дзейнасць для справы ўмацавання сацыялістычнай Польшчы.** „Пад праграмнай дэкларацыяй ПРОН відаць подпісы партый, палітычных арганізацый, аб'яднанняў католікаў і свецкіх хрысціян. Прыступіла да яго разам 163 грамадскія, прафсаюзныя, маладзёжныя жаночыя арганізацыі, разнастайныя таварыствы, творчыя саюзы, веравызнаўчыя аб'яднанні, **асяроддзі нацыянальных меншасцей.** У ПРОНе працуе больш за мільён грамадскіх дзеячоў, у большасці беспартыйных. З гэтай залы кіруем да іх словы пашаны і прызнання", — сказаў В. Ярузельскі.

(Працяг на стар. 2)

**УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — РАСКЛАД ПАЯЗДОЎ З ГАЙНАЎКІ.**

(Працяг са стар. 1)

## ПРА БЛІЗКАЕ НАМ

Варта прыгадаць, што адным з першых падпісала праграмную дэкларацыю ПРОН наша БГКТ і ў ПРОНе актыўна дзейнічаюць многія члены нашай арганізацыі.

На з'ездзе выказалі свае думкі і меркаванні сотні ўдзельнікаў. Выступіў таксама адзін з прадстаўнікоў Беласточчыны, дырэктар Беластоцкага лялечнага тэатра Кшыштоф Рау. Ён, між іншым, сказаў: „Праведзеныя сярод вясковай моладзі даследаванні даказалі, што пра тое, каб маладыя людзі засталіся на сельскай гаспадарцы, вырашаюць не толькі эканамічныя, але і культурныя матывацыі". Зыходзячы з гэтага, ён выказаў патрэбу прызначаць больш сродкаў на культуру. Як прыклад належнага вырашэння гэтай справы падаў Савецкі Саюз. „На Беласточчыне мы супрацоўнічаем з Гродзенскай вобласцю Савецкай Беларусі і Літоўскай Савецкай Рэспублікай, наведваем нашых суседзяў часта і бачым там на вёсцы цудоўныя асяродкі культуры. Шчыра захапляемся паўсюднасцю аматарскага руху і ўзроўнем прафесіянальнай мастацкай творчасці. Аднак трэба ведаць, што, напрыклад, у пяцігодцы 1971-1975 г.г. на культуру ў нашай дзяржаве прыйшлося 1,37 працэнта бюджэту, а ў Савецкім Саюзе на культуру было выдаткавана 6,3 працэнта дзяржаўнага бюджэту". Затым дэлегат ад Беласточчыны заўважыў: „Найбольш інвестыцый вымагае польская правінцыя. Асабліва — паміма несумненных дасягненняў мінулага 40-годдзя — уся на ўсход ад Віслы распаложаная частка нашай Айчыны, у якой недахопы і ў гэтай галіне сёння стаюцца непераадольнай перашкодай у далейшым развіцці гэтых зямель... Са звыш 120 польскіх тэатраў тут мае свае сядзібы ўсяго 10, не знойдзем тут ніводнага тэлевізійнага цэнтра, а з 17 вышэйшых мастацкіх школ працуюць тут толькі філіялы дзвюх варшаўскіх вышэйшых школ. Такіх прыкладаў можна прывесці мноства".

Неабходна дадаць, што асабліва вялікія патрэбы на развіццё асветы і культуры адчувае наша беларускае асяроддзе, і БГКТ з гэтым часта выступае да розных інстанцый і ўстаноў. Трэба паскорыць пабудову новых школ, у тым новага будынка для Гайнаўскага беларускага ліцэя з пачатковай школай пры ім, узвядзення Музея помнікаў беларускай культуры, патрэбны сродкі на выдаванне твораў беларускіх пісьменнікаў „Белавежы" і песеннага фальклору, на забеспячэнне ў адпаведныя кадры інструктараў і матэрыяльныя сродкі беларускага мастацкага аматарскага руху, на пашырэнне розных форм культурна-асветнай дзейнасці. Спадзяемся, што гэтыя запатрабаванні нашага асяроддзя будуць пастунова задавальняцца. У дакладзе Рады Міністраў ПНР X з'езду, з якім выступіў Прэм'ер Збігнеў Мэснэр, між іншым, гаварылася таксама пра аматарскі рух і народную мастацкую творчасць. „Для гэтага руху, якога заданнем працягваць і развіваць нацыянальную традыцыю, будуць створаны больш спрыяльныя варункі", — падкрэсліў Прэм'ер. У гэтым мы бачым гарантыю забеспячэння нашых патрэб.

X з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі 3 ліпеня г.г. закончыў сваю работу. „Аднак мы зробім усё, каб ён працягваўся ў будучых ініцыятывах, каб прысутнічаў у кожным з наступаючых дзён... Заклікаем: больш дэмакратыі, больш дысцыпліны, больш паслядоўнасці!" — Падкрэсліў, закрываючы з'езд, Першы сакратар новаабранага Цэнтральнага камітэта ПАРП В. Ярузэльскі, кіруючы гэтыя словы да ўсіх членаў партыі, да ўсяго грамадства, да кожнага з нас.

(іс)

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## РУЖЫ ЛЯ ПАСТАМЕНТА

Помнік, што нядаўна ўзведзены каля раённага цэнтра Бераставіца, увекавечыў подзвіг воінаў 46-й Кубана-Церскай кавалерыйскай дывізіі і іншых падраздзяленняў, які яны здзейснілі паблізу заходняй граніцы СССР на восьмы дзень Вялікай Айчыннай вайны.

Група савецкіх воінаў, якая адыходзіла з баямі на ўсход, трапіла ў акружэнне каля вёскі Ляпесы. Скончыліся боепрыпасы, і, каб вырвацца, байцы ўдарылі ў штыкі. Кальцо гітлераўцаў удалося разарваць. Але сілы былі вельмі няроўныя. Фашысты ўвесь час атрымлівалі падмацаванні. Ціскі акружэння зноў самкнуліся. У баі, які працягваўся больш за гадзіну, каля трохсот савецкіх воінаў загінулі.

Пасля вайны астанкі герояў перапахавалі ў брацкай магіле гарадскога пасёлка Бераставіца. Тады ж пачалі высвятляць імёны ўдзельнікаў бою. Пошук узначаліў жыхар раённага цэнтра ветэран вайны Даніла Гардзіенка. Праз некалькі год устанавілі імёны двух удзельнікаў легендарнага бою — старшага палітрука кавалерыйскага батальёна Валяр'яна Дрэсвіна і капітана Канстанціна Звягінцава. Удалося адшукаць іх сваякоў. Сын палітрука Дрэсвіна — Юрый, інжынер-праекціроўшчык па спецыяльнасці, стаў аўтарам праекта помніка бацьку і яго баявым таварышам, а ўвасобілі яго ў камні працаўнікі калгаса „Чырвоны Кастрычнік".

...Тры вінтовачныя штыкі, якія ўвасабляюць бяспрыкладную мужнасць абаронцаў Радзімы, навечна ўзнесліся над высокім пастаментам каля шашы на Ваўкавыск. Цяпер тут распусціліся пунсовыя ружы, вырашчаныя пад Омскам і прысланыя ў Беларусь роднымі і землякамі В. Дрэсвіна.

## КАРДЫЯГРАМЫ НА „ПАТОКУ"

Вызваліць урачоў ад запаўнення медыцынскіх карт пацыентаў узяліся спецыялісты вылічальнага цэнтра і канструктарска-тэхналагічнага бюро Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. У садружнасці з вучонымі Беларускага навукова-даследчага інстытута (НДІ) кардыялогіі яны стварылі аўтаматызаваны комплекс для масавых абследаванняў насельніцтва. „Паток-3" — такая назва навінкі — увабраў у сябе шэраг перадавых тэхнічных рашэнняў і сапраўды ставіць справу медыцынскай прафілактыкі на паток.

Уся працэдура запісаў кардыяграмы зойме 40 секунд замест ранейшых 2-3 мінут. Паралельна аператар уключае мікрапрацэсарны блок, і той імгненна вызначае артэрыяльны ціск. Затым пацыента падводзяць да стойкі растамера са спецыяльным датчыкам. Платформа, на якую ступае чалавек — гэта адначасова і вага. Усе чатыры вынікі вымярэнняў аўтаматычна паступаюць на пульт і рэгіструюцца.

Так удалося падзяліць функцыі машыны і чалавека. Пры масавых абследаваннях ЭВМ параўнае даныя кожнага пацыента з аптымальнымі для яго ўзроставай групы, пакажа на людзей, стан якіх патрабуе дадатковага медыцынскага кантролю і лячэння.

## УЗЯТЫ ПАД АХОВУ

У Чачэрскім раёне ўзяты пад ахову два новыя паселішчы барсукоў. Гэтыя звяркі, якія знішчаюць вялікую колькасць шкоднікаў лесу і сельскай гаспадаркі, занесены ў чырвоную кнігу БССР. Таму работнікі Чачэрскага і Нісімкавіцкага лясніцтваў вырашылі паклапаціцца аб рэдкіх насельніках Палесся. Паблізу барсуковых нор са складанымі лабірынтамі, якія цягнуцца на дзесяткі метраў, забаронена высечка дрэў.

На Гомельшчыне выяўлена і ахоўваецца пятнаццаць паселішчаў барсукоў.

## СПОРТ

Армейцы Мінска, выйграўшы ў З II (Запарожжа) — 31:24, заваявалі залатыя медалі чэмпіяната краіны па гандболу. Званне мацнейшых яны заваявалі трэці раз запар.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## ПРАТЭКЦЫЯНІСЦКІ ЗАКОНАПРАЕКТ

Палата прадстаўнікоў кангрэса ЗША 295 галасамі супраць 115 прыняла законапраект, які абмяжоўвае імпарт замежных тавараў. Тым самым, паводле слоў кангрэсмена Уільяма Фрэнзела, Злучаныя Штаты зрабілі магутны залп у фактычна аб'яўленай імі „гандлёвай вайне" са сваімі партнёрамі.

У першую чаргу законапраект накіраваны супраць Японіі, якая захапіла шырокія пазіцыі на амерыканскім рынку. Дэфіцыт ЗША ў гандлі з ёю ў 1985 годзе склаў каля 50 мільярдаў долараў. Агульны ж дэфіцыт знешняга гандлю ЗША ў тым жа годзе дасягнуў 148,5 мільярда долараў. Ды і ў гэтым годзе ён працягвае расці хуткімі тэмпамі і, паводле папярэдніх падлікаў, к канцу 1986 года можа дасягнуць 160-170 мільярдаў долараў.

Амерыканскія заканадаўцы і „вялікі бізнес" выступаюць за прыняцце закона аб абмежаванні імпарту ў ЗША пад тым выглядам, што іх гандлёвыя партнёры звяртаюцца да „несправядлівых для свабоднай канкурэнцыі мер". На справе ж аслабленне пазіцый ЗША на сусветных рынках выклікана цэлым радам прычын, асабліва каласальнымі ваеннымі расходамі, якія склалі ўжо трыльён долараў за час кіравання цяперашняй адміністрацыі і прывялі да ўзнікнення штогадовага хранічнага дэфіцыту федэральнага бюджэту на ўзроўні каля 200 мільярдаў долараў. Гэты дэфіцыт адміністрацыя пакрывае за кошт усё новых пазык на амерыканскім і замежным грашовых рынках, у выніку чаго дзяржаўная запазычанасць ЗША наблізілася да астранамічнай сумы — 2 трыльёны долараў.

Усё гэта прывяло ў свой час да захавання на высокім узроўні банкаўскай дысконтнай стаўкі ў ЗША, штучнага завышэння курсу долара на сусветных валютных рынках, падаражэння экспарту і падзешаўлення імпарту ў ЗША. Пастаяннае „перапампоўванне" фінансавых, матэрыяльных і людскіх рэсурсаў з грамадскіх у ваенныя сферы вытворчасці прывяло да адставання рада галін прамысловасці, прадукцыя якіх аказалася не ў стане канкурыраваць з таварамі з Японіі і краін Заходняй Еўропы.

Адкрыта пратэкцыяніскае рашэнне палаты прадстаўнікоў ідзе ўразрэз з аб'яўленай адміністрацыяй „прыхільнасцю да прынцыпаў свабоднага гандлю і канкурэнцыі". Калі законапраект набудзе сілу закона, гэта непазбежна выкліча меры ў адказ з боку партнёраў ЗША, а значыць — прывядзе да далейшага абвастрэння міжімперыялістычных супярэчнасцей. Гэта прызнаў і прэзідэнт Рэйган, выказаўшы вялікую трывогу ў сувязі з перспектывай „эрозіі адносін ЗША з іх саюзнікамі".

## ПАГРОЗА КАРАЛЮ

Англійская „Сандзі таймс" паведаміла, што пасля забойства Улафа Пальме сям'я шведскага караля пачала атрымліваць лісты з пагрозамі: „Наступная чарга караля!". Пагрозы здаюцца тым больш рэальнымі, што кароль Карл Густаў і Улаф Пальме былі блізкімі сябрамі.

Ананімныя лісты з „папярэджаннямі" атрымаў і Бу Турэсан, сакратар кіруючай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Пошукі злачынцаў, якія, відавочна, належаць да колаў прафашысцкіх ультра, пакуль не ўвянчаліся поспехам. Больш таго, паліцыя заявіла, што ў яе няма ніякіх зачэпак, якія маглі б прывесці да раскрыцця злачынства.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## СТУДЭНТЫ Ў ВАРШАЎСКІМ КЛУБЕ БГКТ

Варшаўскі клуб БГКТ на вуліцы Сенатарскай 8 вядомы многім чытачам „Нівы“. У апошнім годзе дзейнасць клуба неразлучна звязана са студэнцкім рухам і таму гэта справа знаходзіць сваё месца ў „Прысутнасці“.

Няма ў гэтым факце нічога дзіўнага, зважыўшы, што беларускіх студэнтаў у Варшаве амаль дзве сотні і адносна нядаўна пакінулі яны родныя мясцовасці і тым болей адчуваюць патрэбу бліжэйшага кантакту з беларушчынай. На жаль, нельга сказаць гэтага пра нашых землякоў, якія пастаянна жывуць у Варшаве. За нешматлікім выключэннем яны амаль што зусім не цікавяцца працай клуба, калі не лічыць навагодняга балю. Тады толькі аказваецца, што варта быць членам БГКТ — усё ж можна зберагчы тую тысячу — і складчыны плаціць варта, і з гэтага рупліва карыстае скарбнік аддзела. Аж прыемна тады паглядзець, як бягуць, спяшаюцца, захіліўшы полы сваіх танных касцюмаў, і цягнуць размаляваных жанчын, якія выключна ў гэты вечар згадзіліся паслухаць „простую“ мову. Але потым усё вяртаецца да нормы і гібее штодзённай атупеласцю. (Зацікаўленых справай бліжэй заахвочваю прачытаць верш паэта-сатырыка Янкі Здольніка „Новы Год! Новы Год!“, „Прысутнасць“ № 1, 1986 г.).

Тым болей варта нешта сказаць пра супрацоўніцтва студэнтаў з той невялікай часткай беларускай калоніі ў Варшаве, якая яшчэ не зусім абмярцвела. Дарэчы, здзіўляе нас крыху адсутнасць працаўнікоў навукі і літаратуры, пра якіх ведаем, што існуюць, але пабачыць іх на Сенатарскай бадай што і не здараецца.

Перш за ўсё неабходна падкрэсліць добрыя суадносіны паміж студэнтамі і праўленнем Варшаўскага аддзела БГКТ. Як заўсёды ў такіх выпадках, трэба для гэтага ахвоты двух бакоў. Аднак у нашым выпадку яно не зусім так, бо тут бок па сутнасці адзін — вялікую частку праўлення аддзела складаюць студэнты, нягледзячы, што яны праводзяць дзейнасць і ў сваёй студэнцкай арганізацыі — Радзе культуры студэнтаў беларускай нацыянальнай меншасці. Рада, якая гуртуе большасць студэнтаў, не мае свайго памяшкання, таму часта карыстаецца памяшканнем клуба. Таксама тут знайшла прытулак гнаная непрыхільным лёсам рэдакцыя братняга нам часопіса „Сустрэчы“. Тут праводзяць свае рэпетыцыі музычны маладзёжны калектыў і хор. Студэнты таксама прымаюць актыўны ўдзел у культурна-асветнай працы. Стала ўжо традыцыяй, што кожны чацвер адбываюцца сустрэчы, чытаюцца лекцыі і г.д.. Галоўную частку прысутных складаюць студэнты, яны — таксама самыя гарачыя дыскутанты. Асабліва востры абмен поглядаў адбываецца на аўтарскіх сустрэчах з „белавежцамі“, што не асталося без уплыву па іхнюю літаратурную творчасць.

Актыўны ўдзел праяўляўся ў папулярызацыі гісторыі і сучаснасці беларускага студэнцкага руху. Быў прачытаны даклад аб Пражскім зямляцтве і сучасным становішчы беларускіх студэнтаў у Польшчы. Асабліва гэтую апошнюю нагоду выкарысталі студэнты, каб даць багаты вобраз сваёй дзейнасці (такі багаты, што аж іх саміх здзівіў).

Даводзілася таксама студэнтам латаць „дзіркі“, якія рабілі мала сур'ёзныя дакладчыкі, якім даволі часта здаралася проста не прыходзіць на дамоўленую сустрэчу. Такім чынам быў, напрыклад, наладжаны незабыўны вечар беларускіх калядак у выкананні нашых славутых сваімі талентамі студэнтак універсітэта.

Для многіх студэнтаў варшаўскі клуб стаў другім домам. Месцам, дзе можна наладзіць сяброўскую вечарынку, прыемную сустрэчу. Зразумела, усё гэта магчыма дзякуючы прыхільным адносінам гаспадара клуба Фёдара Галёнкі і старшыні аддзела Міколы Аляксеюка.

На жаль, гэты год быў, здаецца, апошнім на добразычлівай Сенатарскай. Клуб будзе пераведзены ў другое месца. Куды, яшчэ не вядома, не відаць, каб улады горада хацелі дапамагчы нам падабраць такое ж зручнае месца. Тым не менш, не зважаючы на цяжкасці, варта і трэба працягваць добрыя традыцыі клуба з вуліцы Сенатарскай 8 у Варшаве.

**Валянцін Сельвясюк**

## ХРОНІКА

16-18 мая адбыўся традыцыйны злёт праваслаўнай моладзі на гары Грабарцы. Хаця ўдзел беларускіх студэнтаў у гэтым паломніцтве быў надта скромны, аднак пытанне пра мову ў царкве было пастаўлена. Святары а. Якімюк, а. Баравік і сам уладыка Іерэмія не толькі (стандартна) згодны, што можна, але і трэба ўвесці беларускую мову ў царкву... калі будзе такое жаданне большай групы прыхаджан. Цікава, як гэта будзе выглядаць у рэчаіснасці? Ці часам не таксама, як год таму назад (глядзі „Сустрэчы“ № 4)?

29 мая звонкімі галасамі трыо Яўген Вапа, Багдан Сіманенка і Юрка Ляшчынскі прагучалі „Многія леты“, прысвечаныя юбілею чарговай „васемнаццаткі“ Госі Мушынскай. Спецыяльна нашаму юбіляру Яўген Вапа чытаў свае новыя вершы, а потым расказаў пра сустрэчу з вядомым літаратарам А. Б.

1 чэрвеня адмысловая камісія на сваім другім пасяджэнні, пасля бурлівых і вострых спрэчак, прыняла пастанову аб змене „сярэдняй беларускай“. Ад гэтай пары ўзорам „сярэдняй беларускай“ з'яўляецца... гіпсавая статуя Альжбеты В. з І курса Філіяла Варшаўскага універсітэта. Віншуем усіх дзяўчатак, што яны менавіта апынуліся вышэй сярэдняй, а ўсім іншым прыпамінаем, што за месяц чарговае пасяджэнне камісіі.

Май-чэрвень — у гэты час ідзе экзаменацыйная сесія ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Польшчы. Усім беларускім студэнтам, якія станоўча залічылі чарговы курс, „Прысутнасці“ зычыць здаровага вакацыйнага адпачынку, а тым, якіх чакае яшчэ вераснёўскае змаганне, жадаем удачы.



## Бацькаўшчына[3]

**Паважаныя чытачы!**

Звяртаемся да ўсіх, ад малога да старога. Знайдзіце вольны час у днях 15-20 ліпеня. Тады якраз адбудзецца славуты ўжо студэнцкі рэйд па роднай зямлі:

Праграма нашага сёлетняга падарожжа такая:

15.07 — удзельнікі, хто чым, дабіраюцца ў Гайнаўку і пад вечар спатыкаюцца на панадворку Беларускага ліцэя.

16.07 — раніцай далучаюцца тыя, якія не змаглі прыехаць вечарам папярэдняга дня. Чакаем да 11-й гадзіны ў ліцэі, потым ідзем у Нараўку, дзе і заначуем.

17.07 — у гэты дзень пяройдзем з Нараўкі ў Семяноўку.

18.07 — дзень адпачынку: вельмі кароткая траса з Семяноўкі ў Луку.

19.07 — з Лукі ідзем у Міхалова.

20.07 — апошні дзень рэйду праводзім у славутым сваёй гісторыяй ды гасціннасцю Гарадку

Апрача супольнага адпачынку і ўцехаў, гарантуем даклады па гісторыі роднага.

**Прачытай! Запамятай! Перадай!**

## Апамятайцеся!

Апошнім часам з непакоем назіраем паступовы занепад дзейнасці беларускіх студэнтаў Беластока. Наколькі нашых студэнтаў якраз тут, у Беластоку, найбольш, настолькі вобраз іхняй дзейнасці прадстаўляецца зусім супрацьлеглай колькасці. А зважаючы яшчэ на факт, што тут жыве шмат беларускай інтэлігенцыі, дзеячоў беларускай культуры і літаратуры, прадстаўнікоў навукі, лагічна не павінна быць ніякіх цяжкасцей у свабодным развіцці беларускага студэнцкага руху. (Зразумела, не лічачы цяжкасцей аб'ектыўнага характару).

На жаль, так не ёсць. Беластоцкае беларускае студэнцкае асяроддзе становіцца ўсё больш абыякавым да нацыянальных, па сутнасці — грамадскіх, спраў. Бо ж запусты ці навагодні баль, пры амаль што выключна небеларускай музыцы, нельга назваць сур'ёзным мерапрыемствам. Калі ўзнікаючая некалькі гадоў таму назад Рада культуры студэнтаў нацыянальных меншасцей у Беластоку (папулярна называная „Беларуска-Літоўскай радай“) ставіла перад сабой высакародныя мэты, бліжэйшыя і далёкасяжныя планы дзеяння, тады і студэнты гарнуліся ў яе шэрагі. Налічвала яна ў пачатку існавання звыш 200 членаў. Сёння высакародныя мэты зусім не наблізіліся, ды і планаў, не толькі больш сур'ёзных, але і рэкрэацыйнага ці забаўвовага характару амаль што і няма. Што тут многа гаварыць — беларуская студэнцкая арганізацыя практычна ў Беластоку не існуе. Апошні сход яе членаў адбыўся зімой мінулага года. Праўда, ад нейкага часу дзе-нідзе і ад саміх беластоцкіх студэнтаў можна пачуць словы, што дрэнна цяпер дзеецца і неабходна штосьці зрабіць. Як жа шкада, што ўсё канчаецца на гэтым слове „трэба“.

Прычын гэткай ненармальнай сітуацыі шмат. Галоўных ёсць тры.

Першая — гэта адносіны да беларускай рады з боку ўлад ЗСП, аб якіх не раз мы ўжо пісалі. Цікава, што падобныя адносіны ЗСП да беларускіх студэнтаў намнога менш перашкаджаюць дзейнічаць ім у Варшаве.

Другая — гэта яўная варожасць паміж БГКТ і студэнтамі. Гэтага, дарэчы, няма ў Варшаве. ГП БГКТ, прыкладна, не толькі што фінансава ніколі не дапамагло студэнтам, але нават не дазволіла арганізаваць „атрасіны“ студэнтаў першага курса ў сваім памяшканні (яшчэ перад яго рамонтам).

**(Працяг на стар. 4)**

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка

Старонку падрыхтавалі: Юрка Ляшчынскі, Мікола Ваўранюк, Валянцін Сельвясюк, Лёнік Тарасэвіч, Яўген Вапа.

# Беларусы на Сямяцічыне

(Працяг са стар. 1)

роткім дакладам аб беларускай дзейнасці ў Сямяціцкім раёне. Гэты даклад папоўнілі яшчэ Міхась Вішанка і Кастусь Майсеня. Шматлікай групе тутэйшых актывістаў былі ўручаны Ганаровыя граматы з нагоды 30-годдзя БГКТ. А на століках у гэтай жа зале знаходзіліся кніжкі і пласцінка Міхася Забэйды, выдадзеная дзякуючы намаганням БГКТ. Можна было таксама купіць тут Беларускі каляндар на 1986 год.

А чацвертай гадзіне пасля



Намеснік старшыні ГП БГКТ К. Майсеня і сакратар ГП БГКТ В. Луба ўручылі шматлікай групе актывістаў Сямяціцкага аддзела БГКТ Ганаровыя граматы з нагоды 30-годдзя БГКТ.



„Васілёчкі“ ў Сямяцічах.

абеда ў Сямяціцкім амфітэатры, што над рэчкай Камянкай, выступілі бельскія „Васілёчкі“ і трохасабовы эстрадны калектыў Бельскага дома культуры. Праграма абодвух калектываў прадаўжалася амаль дзве гадзіны. Было што паслухаць і чым палюбавацца...

— Сёння ў нас наладжаны яшчэ два іншыя культурна-грамадскія мерапрыемствы, — паясняў усё гэта старшыня М. Матосюк. — За Сямяцічамі, ля „Гартэксу“, адбываецца зараз рабочы турнір, а на Грабарцы — паломніцтва праваслаўнай моладзі з цэлай Польшчы, зразумела, што найбольш з нашага наваколля, дзе жывуць беларусы. І таму так мала людзей прыйшло сюды, каб паслухаць спевы...

А мне здаецца, што адказныя працаўнікі ГП БГКТ надта ж фармальна аднесліся да арганізацыі гэтага Беларускага дня ў Сямяцічах.

— Я разаслаў звыш 100 асабістых запрашэнняў, — апраўдваўся Міхась Вішанка. Аказалася, што гэтага, аднак, мала, што пошта і пісьманосцы не падменяць сапраўднай актыўнасці. Трэба яе тут шукаць у вёсках, сярод беларускага насельніцтва. Я сам ведаю, што, для прыкладу, у Вольцы Нурэцкай, а таксама і ў суседняй Тымянцы, існуюць спрыяльныя ўмовы для наладжання харавых калектываў, бо звычай супольнага харавога спявання вядзецца ў гэтых вёсках спрадвеку. У іншых вёсках таксама. А мы ад няпамятнага часу адно толькі наракаем, што няма каму пакіраваць гэтымі калектывамі, што не хапае спецыялістаў!

„Ніва“ ўжо пісала, што знайшлася ў Сямяцічах асоба, жанчына з музычнай адукацыяй, якая праяўляе ахвоту арганізаваць шматасабовы беларускі калектыў. Вось і добра! Каб толькі хутчэй і каб не закончылася ўсё на этапе пажаданняў! Будзьма, аднак, добрай думкі і меймa надзею, што і на поўдні Беласточчыны паявіцца канкурэнцыя (вельмі ж пажаданая!) для калектываў у Бельску і Гайнаўцы.

А хор гэтакі патрэбны тут, як чыстае паветра і добрае здароўе. Пераканаўся я ў гэтым, наведаўшы вёску Чорную Сярэднюю, дзе вечарам абодва калектывы з Бельска давалі платны канцэрт. Платны, для яснасці толькі для публікі і БГКТ, а не для самадзейнікаў, якія павінны былі задаволіцца скромнымі дыэтамі.

Ёсць тры вёскі з назвай Чорная: Вялікая, Сярэдняя і Царкоўная. Усе яны населены пераважна праваслаўным народам. Я мэтанакіравана адзначыў тут веравызнанне, бо яно амаль аўтаматычна вызначае і нацыянальную прыналежнасць. Найменш праваслаўных сялян, аказваецца, у Чорнай Царкоўнай. Я пацікавіўся іх штодзённай мовай.

— Старэйшыя дык яшчэ між сабою гавораць „па-простy“, — паінфармавала сялянка, якая жыве побач з вясковым клубам. — А моладзь і дзеці дык ужо ў нас выключна карыстаюцца польскай мовай.

Яна крыху памаўчала і дадала:

— Вось у Чорнай Велькай, то там яшчэ больш трымаюцца „свайго языка“.

Яна так і сказала: *„Свайго языка“*.

„Васілёчкі“ ледзь умяшчаліся на клубнай сцэне. Білеты каштавалі па сто злотых і знайшліся ахвотныя, каб за такую цану паслухаць родны, прыгожы спеў. Гэта тут рэдка, вельмі рэдка здараецца. Міхась Вішанка прадаў 72 уступныя білеты. Зала клуба, даволі прасторная і дбайна ўтрыманая, запоўнілася да апошняга месца. Многім не хапіла крэслаў. І адчувалася, што тутэйшыя людзі, хаця найчасцей карыстаюцца ўжо польскай мовай, успрымаюць беларускія песні не толькі вухам, але і сэрцам. Ян Балейка і Аляксандр Дработка разам са сваімі сем'ямі прыімчаліся з Чорнай Вялікай на ўласных аўтамабілях, апранутыя, як на вялікае свята. З Чорнай Царкоўнай нехта прыпёр „малюхам“. А развітанне з самадзейнікамі праходзіла яшчэ болей сардэчна, чымсьці сустрэча. Проста штосьці беларускага асталося ў душы тутэйшых жыхароў. Гэта і ёсць асноўная мэта, да якой трэба нам імкнуцца, каб беларусы на Сямяцічыне адчувалі сябе сапраўды беларусамі.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# У БГКТ

17 чэрвеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума Міхалоўскага раённага аддзела БГКТ. На ім быў абмеркаваны і прыняты для выканання план працы аддзела на другое паўгоддзе 1986 г. Ён прадбачвае правядзенне інтэнсіўнай працы, накіраванай на аднаўленне навучання беларускай мовы ў Міхалоўскім агульнаадукацыйным ліцэі і ў пачатковых школах раёна, а таксама дапамогу ў навучанні гэтага прадмета. Вырашылі таксама наведаць усе гурткі ў раёне з канцэртамі, аўтарскімі спатканнямі „белавежцаў“ або іншымі мерапрыемствамі.

У той жа дзень праходзіла пасяджэнне Прэзідыума Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ. Беластачане правялі вельмі скрупулёзную ацэнку культурных мерапрыемстваў, якія аддзел пры дапамозе Галоўнага праўлення БГКТ правёў у горадзе Беластоку. Высокую ацэнку атрымаў канцэрт лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня-86“ для школьнікаў на Дзень дзіцяці ў беластоцкім амфітэатры. З асаблівым задавальненнем Прэзідыум адзначыў удачлівае правядзенне двухдзённага Свята беларускай культуры ў Беластоку ў днях 14-15 чэрвеня г.г. Высокі ўзровень выступленняў мастацкіх калектываў, 5-6 тысяч слухачоў у амфітэатры, добрая арганізацыя мерапрыемства, ахвярная праца актыву — усё гэта дало добрыя вынікі. Прэзідыум вырашыў правесці падобную імпрэзу падчас верасនёўскіх Дзён Беластока, будзе рабіць намаганні, каб адзін дзень быў Днём беларускай культуры. Удзел беларускіх маладых спевакоў падчас святкаванняў Дня дзіцяці і двухдзённае Свята беларускай культуры будуць штогадовымі нашымі імпрэзамі. Затым Прэзідыум абмеркаваў усе справы, звязаныя з арганізацый і правядзеннем Ночы Купалы 28-29 чэрвеня на рацэ Нарве ў ваколіцах вёскі Войшкі. Гэта таксама будзе адна з арыгінальных і многалюдных імпрэзаў Беластоцкага аддзела БГКТ.

# Апамятайцеся!

(Працяг са стар. 3)

А трэцяя — гэта ўнутраныя спрэчкі і сваркі, якія ў канцы канцоў знішчаюць усялякія праявы нават здаровай думкі. Якраз спрэчкі характэрны не толькі беластоцкім студэнтам, яны выступаюць у кожнай сукупнасці беларусаў. Смешна і адначасова жудасна тое, што такія спрэчкі выклікаюць людзі, якія прыкрываюцца мянушкай адзіных „абаронцаў роднага“, а ўсіх іншых лічаць ворагамі народу?!

Ну што ж, беларуская студэнцкая арганізацыя робіцца штораз менш папулярнай, мала атракцыйная, а гэта ўмела выкарыстоўваюць іншыя, у тым ліку і ўлады ЗСП. Будучы членам гэткіх „іншых“ арганізацый, беларускія студэнты маюць магчымасць добра адпачыць, выехаць у братнія краіны на экскурсію, ці на заробкі. А беларуская рада гэткіх магчымасцей амаль што і не мае. Таму, між іншым, беластоцкія беларускія студэнты ставяцца так абыякава да роднага, проста дзеля ўласнай карысці...

Пакуль што яшчэ поўнасцю Вы, сябры, не выракліся свайго, але хто яго ведае, як будзе далей. Таму звяртаемся да Вас, да Вашых халодных, зматэрыялізаваных сэрц: апамятайцеся!

**Юрка Ляшчынскі**

# Вытокі асновы

Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы, беластоцкая „Цэпэлія“. Акруговы музей, каапэратыў вытворцаў рукадзелля „Народнае мастацтва“, Беластоцкі аддзел таварыства народных творцаў каапэратыў „Беластоцкае народнае рукадзелле“ і Ваяводскі дом культуры ў Беластоку пад патранатам Міністэрства культуры і мастацтва, (Дэпартамент бібліятэк, дамоў культуры і грамадска-культурнай дзейнасці) і Цэнтральнага саюза каапэратываў артыстычнага і народнага рукадзелля „Цэпэлія“ арганізавалі конкурс на ткацкія работы. У конкурсе прыняло ўдзел 99 асоб, якія прыслалі 200 работ — 127 двайных тканін (дываноў), 37 сейпакоў (пасцілак), 33 пругі (крайкі) і 3 перабіраныя тканіны. З Беластоцкага ваяводства ткачы прыслалі 135 работ (69 удзельнікаў), з Сувальскага — 43, Ламжынскага — 15, Сядлецкага — 7. Не было ўдзельнікаў з Цеханоўскага, Альштынскага і Люблінскага ваяводстваў. У параўнанні з міжваяводскім конкурсам на двайную тканіну і сейпак у 1983 годзе пабольшылася колькасць удзельнікаў.

Выстаўку ў павільёне галерэі сучаснага мастацтва ў Беластоку („лятучыя талеркі“ пры вул. Ліпнёвага маніфеста нумар 14) арганізавала Галіна Якубоўская, кіраўнік аддзела этнаграфіі Акруговага музея, а мастацкае афармленне Антон Шыманюк. Пасляконкурсную выстаўку можна будзе агледаць 2 месяцы (ад 22 чэрвеня). Найбольш на выстаўцы двухасноўных тканін,

# КАМУ ГАРАДЗІЦЬ БЕЛАВЕЖУ

Земляробства ў гміне Белавежа не з'яўляецца найважнейшай галіной гаспадаркі, а ў дадатак мае іншы характар, чым у другіх раёнах ваяводства. Вялікі ўплыў на яе мае масіў Белавежскай пушчы. Патрэбы аховы унікальнага асяроддзя абмяжоўваюць магчымасці меліярацыі, рэкультывацыі і ўгнойвання. Лясное акружэнне зацямняе і збядняе глебу. Плёны тут ніжэйшыя і часта знішчаюцца яны ляснымі звярамі. Ды і працягласць вегетацыі ў Белавежы моцна скарочаная ў параўнанні, напрыклад, з заходняй Польшчай.



Такую карціну на белавежскіх палях можам назіраць яшчэ даволі часта.

На агульную паверхню гміны 20320 га, сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць толькі 1243 га. Грунты тут нізкага класа — VI, V, крыху IV і зрэдку III. Гаспадаркі выключна індывідуальныя і невялікія — у сярэднім 3,5 га (у ваяводстве звыш 8 га). Разам было іх у мінулым годзе 431. І трэба адразу дадаць, што гэты лік пастаянна змяншаецца За год знікае 7-8 гаспадарак. Нічога дзіўнага, большасць гаспадароў — гэта людзі пажылыя, маладых тут толькі 8 гаспадароў. Шмат гаспадароў часова працуе ў іншых галінах гаспадаркі: у лесе, у гмінных установах і на прадпрыемствах, пры абслугоўванні турыстаў (фурманамі, экскурсаводамі), вырабляюць рэгіянальныя сувеніры і г.д.

Пастаянна навышаецца ў гміне дзяржаўны фонд зямлі. На канец 1985 г. ён складаў 181 га. Большую яго частку зараз арандуюць сяляне, але аж 41 га астаецца без гаспадара.

Кашмарам белавежскіх сялян з'яўляюцца шкоды, якія ўчыняюць лясныя звяры. З-за гэтага пастаянна ўспыхваюць непаразуменні паміж салэцтвамі і дзяржаўнымі лясамі ды Белавежскім запаведнікам, якія ўпіраюцца, каб менавіта сяляне, а не яны гарадзілі палі ад звяроў. Праўда, дазваляюць бясплатна загатаўляць жэрдкі ў лесе. Але ці гэта пад сілу пажылым людзям? У мінулым годзе толькі сяляне з Пагарэльцаў скарысталі з прадастаўленай магчымасці і абгарадзілі палі на даўжыні 3 км. У 1984 г. дзяржаўныя лясы заплацілі сялянам 816 тыс. зл. кампенсацыі за звярыныя шкоды. Вясковыя рады ў сваю чаргу сцвярджаюць, што гэтыя кампенсацыі не пакрываюць усіх сялянскіх затрат. Выходзіць на тое, што дзяржаўным лясам больш аплачваецца плаціць грошы, чым забяспечыць палі ад знішчэння.

У гміне ў мінулым годзе збожжа сеялі на 44 га, бульбу ж садзілі на 226 га. 129 га займалі: люцэрна, сырадэля і іншыя кармавыя расліны.

Быдла белавежцы гадавалі 485 штук (у тым ліку кароў — 279), свіней — 749 штук, авечак — 848 штук. У апошніх гадах змяншаецца колькасць быдла і свіней, расце колькасць авечак. Павялічваецца таксама зацікаўленне гадоўляй свойскіх птушак і футравых звяркоў. Павялічваецца лік пасекаў і пчаліных раёў.

Скупка ў 1985 г.: збожжа — 18 т., бульбы — 86 т., свіней — 13,2 т., быдла — 46,9 т., малака — 526 тыс. літраў. У параўнанні з 1984 г. панізілася скупка быдла.

Механізацыйныя паслугі ў гміне вядзе СКР з Гайнаўкі. На жаль, іх узровень і аб'ём не задавальняе белавежскіх сялян. Не раз даводзіцца белавежцам ратавацца машынамі суседзяў.

Гмінныя ўлады не скрываюць, што ў белавежскай сельскай гаспадарцы больш фактараў неспрыяючых, чым спрыяючых яе развіццю. Аднак робяць яны намаганні, каб ёй дапамагчы. Ужо апрацаваны шматгадовы план, які ў бягучай пяцігодцы, між іншым, прадбачвае паляпшэнне ўмоў жыцця на вёсцы, вырашэнне праблемы забеспячэння ўсіх салэцтваў вадой.

**П. Байко**

Фота А. Дамашэвіча

# РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



**Хата з другой паловы XIX стагоддзя і дабудаваная частка з XX стагоддзя на вул. Святаянскай у Сямяцічах. Графіка У. Петрука.**

# ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## Вераломнае забойства

**Супольнае панаванне ў 1263-7 гадах князёў навагрудскага Войшалка і дарагічынскага Шварна — гэта час вяртання Вялікага княства Літоўскага да тае магутнасці, якой яно было ў апошнія гады жыцця Міндоўга. Таксама сын Міндоўгаў, як і ягоны зяць аказаліся годнымі свайго бацькі і цесця спадчыннікамі. Яны адцяснілі здрадніка Доўманта ад паўночных межаў свае дзяржавы, умацавалі сваю ўладу ў Полацку і Віцебску, наладзілі прыязныя адносіны з князямі Цвярскога княства, якое ахоплівала паўночнае адгалінаванне крывічоў, уладкавалі нядрэнныя адносіны з крыжаносцамі, хоць заплацілі за гэта часовай аддачай значнага абшару, дзе часткова жыло беларускае насельніцтва. На ўсходзе ім удаецца замірыць татараў і залежных ад іх шматлікіх рускіх князёў.**

На поўдні ж не стала зацятага ворага Вялікага княства Літоўскага — пасля цяжкай хваробы ў 1264 г. памёр кароль Даніла Раманавіч „князь добрый, хоробрый и мудрый, иже созда городы многи, и церкви постави, и украси е различными красотами", — усхваліў памяць гэтага выдатнага князя аўтар Галіцка-Валынскага летапісу. І як ужо здаўна вялося ў тыя часы, пасля смерці караля ці князя паміж яго спадчыннікамі адразу абвастрыліся адносіны, разгарэліся спрэчкі і міжусобная калатня. На першынство сярод іх прэтэндаваў Данілаў любімы сын Леў. Паміж ім і яго родным братам Мсціславам, мабыць, дайшло да пагаднення, паводле якога паўднёва-ўсходняя частка Галіцка-Валынскай Русі са сталіцай у Луцку перайшла ва ўладанне Мсціслава, а паўночна-заходняя са сталіцай у Халме — пад панаванне Льва. Пры гэтым абодва браты, і перш за ўсё Леў, намагаліся захапіць Уладзімірскае княства, на якім „сядзеў" іхні родны дзядзька, старэнькі ўжо князь Васілька Раманавіч і ягоны адзіны сынспадчыннік Уладзімір Васількавіч. Выкарыстаўшы прабыванне свайго дваюраднага брата Шварна ў Навагрудку ды на поўначы Вялікага княства Літоўскага, дзе ён разам з Войшалкам змагаліся супраць нашэсцяў здрадніка Доўманта, Леў заняў таксама Шварнава Дарагічынскае княства і суседнія з ім землі. Пакрыўджаныя князі Васілька і Уладзімір кінуліся за дапамогай у Навагрудак да Войшалка, на ягоную дапамогу разлічваў таксама пазбаўлены бацькаўшчыны Шварн.

Гэтага толькі і чакаў вялікі князь літоўскі — усяго цераз год яго становішча цалкам памянялася: цяпер не ён прасіў дапамогі, а ў яго благалі паратунку князі валынскія! І яны падпарадкоўваліся ягонай уладзе, таксама як год таму назад ён вымушаны быў прызнаць іхнюю ўладу над сабою. Вядома, ні князь валынскі Васілька, ні ягоны сын Уладзімір не зрабілі гэта з радасцю ды не адчулі сябе шчаслівымі — яны ранейшую смяротную нянавісць да Міндоўга перанеслі на ягонага сына і толькі чакалі зручнай нагоды.

Войшалк жа перш за ўсё ўдарыў на Дарагічынскую і Берасцейскую землі, намагаючыся адбіць іх з-пад улады Льва як бацькаўшчыну свайго швагра Шварна, і, вызваліўшы гэтыя землі, „потом тягнул на Волынь, хотячи Льву Даниловичу выдрати з рук Володимер", — паведамляе Хроніка літоўская і жамойцкая. Перапужаны такім нечаканым паваротам справы Леў Данілавіч кінуўся на хітрыкі. Спрабаваў ён наладзіць перамовы з Войшалкам, які з аграмаднай арміяй кіраваўся на Уладзімір, але вялікі князь літоўскі на ніякія пагадненні не згаджаўся і „всего Волыня упоминался упорне", — чытаем у той жа хроніцы. Перасвараныя князі Галіцка-Валынскай Русі раптам зразумелі, што над усімі імі павісла вялікая пагроза — Войшалк можа заняць не толькі Валынь, але і іншыя землі былой Данілавай дзяржавы. Перад абліччам такой небяспекі Леў хуценька пагадзіўся з Васількам і Уладзімірам, відаць, зрокшыся ранейшых сваіх прэтэнзій на іхнія ўладанні. Такім чынам утварылася варожая вялікаму князю літоўскаму кааліцыя галіцка-валынскіх князёў, да якой прыхіліўся нават Шварн. Перамовы вясці ўзяўся Васілька, які ў Войшалка карыстаўся найбольшым аўтарытэтам. Пад яго ўздзеяннем Войшалк спыніў наступ на Уладзімір і, размясціўшы сваю армію навокал Угруска (сённяшняя вёска пры ўпадзенні рэчкі Угаркі ў Буг у Холмскім ваяводстве), сам стаў кватэрай у тамашнім Угрускім манастыры, у якім ён раней быў манахам.

Пад уплывам успамінаў пра колішняе сваё ціхае манастырскае жыццё, ці пад уздзеяннем гутаркі з шанаваным ім ігуменам Рыгорам, які пастрыгаў яго ў манахі, ваяўнічасць Войшалка памякчэла і ён „лежал там обозом долго с панами, княжаты, и бояры своими, чекаючы выезду

 

# ЛЮБІМ РАБІЦЬ З КАГОСЬЦІ ДУРНЯ

Хто ж не ведае ў Гайнаўцы пані Валі! Ведаюць яе ўсе. Яна ж працуе ў адзінай тут платнай прыбіральні, а таксама плача па ўсіх нябожчыках. Кожны раз плача, і то так шчыра, як па нейкаму свайму родзічу.

— Мог жа ён яшчэ пажыць, — заўсёды гаворыць Валя.

Яна даволі часта хварэе, яе бяруць у бальніцу. І тады некаторыя робяць з яе непрыстойныя пасмешкі.

— Балела табе, калі лекар рабіў аперацыю, — пытаюць і ўжо крывяцца для смеху.

— Трохі, — адказвае Валя, — трохі пабалела і перастала.

І пачынае яна расказваць падрабязнасці, з якіх якраз найбольш кпінкаў і робяць. А падрабязнасці тыя ў бальніцы, вядома, якія могуць быць...

Яна так шчыра і даверліва расказвала людзям пра ўсё, што, здавалася, не заўважала, як смяюцца з яе, з усяго таго, што расказвала, каму трэба і каму не трэба.

...Потым пані Валя сядала на падваконнік, расчыніўшы акно, і нешта думала сваё, часамі склаўшы рукі, бы для малітвы якое. Усе тады баяліся, каб яна не ўпала за акно, не пабілася або і не забілася! Медсёстры раззуваліся, ціха падыходзілі да яе і асцярожна вялі ў сярэдзіну пакоя.

— Яшчэ раз так зробіце, яшчэ раз так сядзеце ў акне, дык дрэнь з вамі будзе, — палохалі яе.

Яна трымала ў галаве гэтую пагрозу не даўжэй, як да вечара. Назаўтра пра ўсё забывалася і зноў ішла да вакна.

Нудна было ў бальніцы, таму ўсе хворыя і шукалі аказіі якое, каб толькі смех быў. Тэлевізійныя праграмы не вельмі каб займальныя былі, дык, во, самі людзі чаўпуць чаўпасу дзеля весялосці, пераважна дурной.

Можна было б доўга яшчэ расказваць, як смяюцца з пані Валі. Але не ў тым справа, а ў тым якраз, што людзі бываюць бязлітасныя і любяць рабіць з кагосьці дурня.

А ці нельга было б знайсці нейкую іншую забаву, калі ўжо сапраўды чалавеку няма чаго рабіць? Чаму не, можна. Можна, напрыклад, чытаць кніжкі, рабіць на прутках, а нават граць у шашкі. Было б карысней тым, з каго смяюцца, а тым, хто смяецца, — удвая.

**Аўрора**

# ЧАМУ НЕ ПІШУ

Мо некаторыя чытачы „Нівы" (у тым ліку і мой сябра П. Байко) цікавяцца тым, чаму я не пішу ў нашу родную газету. Ну, што ж!.. На гэта склалася некалькі прычын. Першая і мо найважнейшая: няма ўжо такой ахвоты і жадання пісаць артыкулы і інфармацыі ў „Ніву". Другая прычына ў тым, што ўсялякія важнейшыя начальнікі і другія працаўнікі ўсялякіх ужэндаў праз пальцы глядзяць на крытыку і пахвалу. Ну, спрабуй скрытыкаваць нейкага ужэндніка за яго адмоўныя адносіны да сваёй працы і людзей, тады на аднаго ворага будзеш мець больш. Ворага зробіш, а справе і так не паможаш. Хаця некаторыя пішуць, што крытыка дапамагла, але мала я ў гэта веру. Мая крытыка, як калісьці пісаў многа, нікому не памагла. А хваліць таксамі без падставы няма сэнсу, бо гэта паніжае аўтарытэт „Нівы" Не варта хваліць таго, хто не заслужыў на гэта. А хто і заслужыў, дык не абавязкова паднімаць яго аж так высока, бо часам можна і перахваліць. Былі такія выпадкі і ў мяне. Бо гэта крытыка і так нічога не дапаможа, а клопатаў і варожасці можна мець па самыя вушы, каб яна была змешчана ў „Ніве". Але найважнейшае — гэта тое, што „Ніва" і надалей самая дарагая і блізкая сэрцу газета.

Пісаць то я буду, але вельмі рэдка.

**Мікалай Панфілюк**




# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę prasową „Zapuszczanaja Narauka", zamieszczona w tygodniku „Niwa" z dnia 1 czerwca br. Naczelnik Gminy w Narewce wyjaśnia jak niżej:

Widzimy zły stan chodników na ul. Mickiewicza, jednocześnie informujemy, że ze względu na brak środków finansowych na wykonanie w całości tych robót sposobem zleconym, prace te miały być wykonane w czynie społecznym, zgodnie z planem pracy rady sołeckiej na 1985 r.

Urząd Gminy miał zabezpieczyć tylko transport i materiały, które w potrzebnej ilości zakupiono w ubiegłym roku. W miesiącu maju przystąpiliśmy do przebudowy tego chodnika na odcinku od ul. 22 Lipca do ul. Kolejowej.

W bieżącym roku planujemy też przebudowę następnego jej odcinka od ul.22 Lipca do ul. 1-go Maja. Natomiast wspomniane w tym artykule dziury powstałe na skutek podmycia przez wody opadowe zostały usunięte. Pozostawiony bałagan po rozebraniu starej restauracji zostanie usunięty przez zasypanie widocznych dziur w podpiwniczeniu.

Większych prac związanych z zagospodarowaniem tego placu nie możemy robić ze względu na przeznaczenie tego terenu pod budowę pawilonu handlowo-usługowego Gminnej Spółdzielni „Samopomoc Chłopska". Teren ten jest w trakcie przekazywania w/w spółdzielni.

Mając na uwadze estetykę naszej osady i stworzenie lepszych warunków podróżnym w roku ubiegłym wybudowaliśmy zajazd dla autobusów PKS oraz dwie wiaty z zadaszeniem.

W najbliższym czasie zostaną dostawione jeszcze dwie ławki parkowe oraz kosze na śmiecie. Reszta będzie zależała od kultury podróżnych. Przykro nam, że autor notatki nie widzi zmian, jakie zaszły w ostatnich latach, gdyż w okresie ostatnich trzech lat wszystkie ulice przelotowe łącznie z ul. Ogrodową i 1-go Maja otrzymały nawierzchnię asfaltową.

W okresie tym też zostało ułożonych 2500 $m^2$ chodnika oraz wybudowano wcześniej wspomniany zajazd. Nie możemy zgodzić się też z opinią o złej gospodarce energią elektryczną, gdyż świecenie żarówek na ulicach w porze dnia może mieć miejsce tylko w razie awarii. Istnieje też regulacja spływu wody przy moście, lecz ze względu na niski poziom wody w rzece jest jej małe spiętrzenie i o to chyba chodzi autorowi notatki.

Urząd Gminy w Narewce
W/z Naczelnika Gminy
**Luba Nowik**
Sekretarz Urzędu

Narewka, 12.06.1986 r.

W odpowiedzi na Wasze pismo z dn. 19.05.1986 roku oraz w nawiązaniu do artykułu z dnia 11.05.86 r. zamieszczonego w „Niwie", nr 19, pt. „Na pradwieśni u Kozlikach", niniejszym informuję, że Urząd Gminy w Narwi poczyni starania wraz z samorządem wsi Koźliki, aby robotami czynowymi jeszcze w bieżącym roku dokończyć przerwane prace brukarskie na tejże ulicy.

Odnośnie braku sklepu wiejskiego wyjaśniam, że odbyłem rozmowę z sołtysem wsi, który zobowiązał się, że wraz z samorządem poczyni starania, aby znaleźć chętnego sklepowego do prowadzenia tejże działalności.

Nadmieniam, że w przeszłości działalność sklepu we wsi Koźliki została zaniechana, ponieważ dotychczasowy sklepowy odmówił dalszej pracy.

Naczelnik Gminy w Narwi
**inż. Michał Wróblewski**

князей руских на компромис о границу", — паведамляе Хроніка літоўская і жамойцкая.

Гэтую хвілінную яго слабінку зараз жа выкарысталі князі галіцка-валынскія. Леў „умыслил вызвати глубше Войселка в Рускую землю, абы так снадне мог его покончати", — гаворыцца ў той жа хроніцы.

За намовай Льва паехаў Васілька ва Угруск і настойліва пераконваў Войшалка прыехаць на мірнае пагадненне ва Уладзімір. Адмаўляўся „долго Войселко з панами литовскими, маючи в подойзреню Льва", — заўважае аўтар Хронікі літоўскай і жамойцкай. Але ўрэшце вялікі князь літоўскі паехаў на словы Васільковы і Шварновы да горада Уладзіміра — паведамляе Хроніка быхаўца. — „И приехал на святой неделе (у вялікі тыдзень перад Пасхай — М.Г.) в Володимер и ста в монастыре святого Михаила Великого".

Пачаткова ўсё выглядала бяскрыўдна. У першы велікодны дзень, пасля разгаўлення, пачаліся перамовы. Праходзілі яны, мабыць, памысна для абодвух бакоў, бо пасля іх заможны ўладзімірскі мешчанін немец Маркхальт запрасіў князёў да сябе ў гасціну. Далей жа перадайма голас аўтару Хронікі літоўскай і жамойцкай:

„І былі ўсе вясёлыя ў яго, — піша храніст. — Падпіўшы, князь Васілька паехаў на сваю гасподу, Войшалк з панамі сваімі літоўскімі таксама падаўся бяспечна ў манастыр. А потым прыехаў да яго ў манастыр п'яны князь Леў і клікнуў: „Пане куме, яшчэ напеймася!.." А калі да яго з пакоя бяспечна, не спадзяючыся здрады, выйшаў Войшалк, Леў стаў яму дапякаць у вочы за лютасць бацькі яго Міндоўга, якую ўчыніў на рускіх землях, а таксама за тое, што беспадстаўна захапіў (Войшалк — М.Г.) сабе некалькі рускіх замкаў. Затым з вялікай запальчывасцю загадаў слугам сваім схапіць (Войшалка), а сам яму шабляю расцяў голаў, аж мазгі з яе брызнулі на сцяну, ды пакінуў забітага ў манастыры. А іншых паноў літоўскіх, у гаспадах спячых, рубалі, таксама прыдворных Войшалкавых п'яных, якія такой гасціны не спадзяваліся, пасеклі, а іншых у замак уладзімірскі ў турму пасадзілі. Такім вось спосабам Леў закончыў вайну з Вялікім княствам Літоўскім".

Аднак такі вывад храніста быў скараспелы і беспадстаўны, бо якраз вераломнае забойства Львом вялікага князя літоўскага Войшалка і яго світы ва Уладзіміры ў 1267 годзе адкрыла зацяжную і заядлую вайну паміж Вялікім княствам Літоўскім і князямі Галіцка-Валынскай Русі. Закончылася гэтае кровапралітнае змаганне ў XIV стагоддзі поўным разгромам Галіцка-Валынскай Русі і падзелам яе тэрыторыі паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай.

Трагічныя паслядоўнасці гэтага ганебнага забойства адразу ўсвядомілі князь Васілька і асабліва дарагічынскі князь Шварн, які з-за яго траціў прэсціж у Вялікім княстве Літоўскім і шанцы на пасад вялікага князя літоўскага. І не дзіва, што Васілька ды Шварн „з великою жалостию того припадку жаловали, маючы то за вечную ганьбу и зелживость народу руского", што такі славуты „княжа против прав всех народов за зламаною от них приречоною верою был забитый! — піша аўтар тае ж хронікі і дадае: „там же его в монастыру святого Михаила в Володимеру яко князя учтиве поховано".

Шварну як мужу адзінай жывучай спадчынніцы — дачкі Міндоўга — удалося нейкі час утрымацца ў Навагрудку на пасадзе вялікага князя літоўскага. Але яго становішча было вельмі хісткае: грамадская апінія Вялікага княства Літоўскага не магла яму даравань удзелу ў забойстве Міндоўгава сына Войшалка, якога асабліва шанавалі незаможныя дружыннікі-баяры праваслаўнага веравызнання за яго вернасць манашаскаму стану („заўсёды на багатай княжацкай вопратцы на галаве насіў ён чорны манашаскі клабук", — падае летапісец) і затое, што звычаем свайго бацькі — быў пагрозай для багаццяў вяльможаў і шчодры для незаможных вояў-баяраў.

Але першы ўдар па Шварну нанёс яму галіцка-валынскі князь Мсціслаў Данілавіч, які панаваў у Луцкім княстве, родны брат Льва Данілавіча і дваюрадны — Шварна, калі лічыць яго сынам княжны Фядоры Раманаўны, сястры Данілы Раманавіча. „И князь Мстислав луцкий начал войну с князем Шкварном, хотя его выгнати изо отчины своея — из Берести, и из Мелника, и из Городна, и из Новагородка", — чытаем у Еўраінаўскім летапісе. Вялікае княства Літоўскае ўспрыняло гэта як пагрозу сваёй дзяржаве і ўсямерна падтрымала Шварна. У бітве на правым беразе ракі Ясельды яго войскі на чале са Шварнам разграмілі галіцка-валынскую армію, „толко князь Мстиславль в малои дружине и едва сам утече в город Луческ", — паведамляе той жа летапіс і дадае: „А князь великий Шкварно взял город Пинеск и город Туров".

Хоць гэтая перамога і ўмацавала Шварна на пасадзе вялікага князя літоўскага, але не надоўга. Неўзабаве ён памірае (каля 1270 года). Невядома: ці ад хваробы, ці ад атруты. Аднак тое, што пахавалі яго не ў Навагрудку, а ў Халме, паблізу Данілы, прамаўляе за тым, што Вялікае княства Літоўскае ўсё ж не лічыла яго сапраўдным сваім князем, хоць дзякуючы яму і здолела пераможна выйсці з дзяржаўнага крызісу, выкліканага забойствам Войшалка.

Разам са смерцю гэтых двух, несумненна, выдатных дзяржаўных дзеячоў і военачальнікаў закончыўся адзін з бурлівых перыядаў у мінулым Вялікага княства Літоўскага, а ў тым і нашага рэгіёна.

**Мікола Гайдук**



 

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Калі працаваць з ахвотай

Пад канец навучальнага года дзеці з Дубяжына паведамілі „Зорку“, што ў іх школе зроблена прыгожая выстаўка народных вырабаў. Навучальны год канчаецца, і выстаўку трэба будзе разабраць, каб забяспечыць экспанаты. А выстаўка такая прыгожая, што шкада было б, каб „Зорка“ яе не пабачыла.

Сапраўды, шкада было б. І я паехала.

У новай школе „Зорку“ парадавала чысціня і парадак. На сценах — новыя дэкарацыі, стэнды, газеткі. У вялікай зашклёнай вітрыне пад загалоўкам „Аб нас пішуць“ шмат цікавых выразак з „Нівы“, „Зоркі“, „Газеты Вспулчэснай“ аб школе ў Дубяжыне.

А ў адным з класаў — багатая выстаўка. Чырванню кветак вабяць вока ільняныя вышываныя ручнікі, развешаныя па сцяне, абрусы на сталах, а на іх глякі, збаны, верціхі, міскі, ступкі. А тут жа на падлозе — маслабойкі. Адна — высокая з драўлянай бойкай, і нізкая, плоская, з металічнай ручкай-корбкай збоку. Побач бочка, доўбленая з аднаго камля, стары калаўротак, плеценая з саломы бочка на сухое зерне і шмат-шмат іншых цікавых рэчаў. Большасць экспанатаў паходзіць з дому Акуліны Адамюк, іх перадала школе яе дачка.

На саматробных плахтах і ручніках шмат лозунгаў аб роднай мове, а таксама (што мяне пры-

(Працяг на стар. 10)



Фрагмент выстаўкі народных вырабаў.



Гарцэры ў сваім пакоі, які ўласнаручна загаспадаравалі на паддашшы.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Данута Бічэль-Загнетава

### ДУБ

Сагрэўшы каля губ,
я жолуд пасадзіла,
ужо расце мой дуб,
маё лясное дзіва.

Цягніся ў вышыню,
каб бачыць наваколле,
не спазнавай ніколі
сякеры і агню.

### ЗАПРАШЭННЕ

Звяры з-пад зялёных
стрэхаў!
Прыходзьце ў госці ка мне!
Няхай вас не спудзіць рэха,
хай куля заўжды міне.

Мядзведзі,
лісы і козлікі!
Так хочацца з вамі
паладзіць,
усіх накарміць,
пагладзіць
і прыручыць да вёскі.

### ЗАКЛІЧКА

Давайце песню пець,
каб абудзіць лясы!
З бярлогі ўстань,
мядзведзь,
ідзі на галасы.

### СІВЫ ДЗЯТЛІК

Дзятлік сівы,
як праменьчык жывы,
то ўверх,
то ўніз.
На суку павіс,
схаваўся ў дупле,
і зноў на ствале.

### СОН

Спаць хацеў маленькі сон,
ледзь ступаў, хістаўся ён.
Ані зыку не чуваць:
— Дзе ж я буду
начаваць?

Прыскакаў кавалёк —
ён каваў непадалёк, —
падхапіў пад пашкі,
кажа:
— Ты не цяжкі,
падсаджу цябе за плечы
да малойчыка-малечы.
У пакоі ціпшыня,
спіце разам аж да дня.

### ЗОРЫ

Бегла ночка
праз гушчар
несла зоры
ў торбе хмар.
Напалохаў ноч
камар,
з торбы высыпаўся
жар.

### ЛІС

Ярка-рыжы,
ярка-рыжы!
Кураняты — хто куды!
Зловіць — у ланцуг
паніжа
Замяце хвастом сляды.

### ВОЖЫК

Гэта ж трэба!
На сцяжынцы —
шпількі вострыя
і шыльцы!

(Працяг са стар. 9)

## Калі працаваць з ахвотай

емна здзівіла, але і ўцешыла) лозунгі аб „Ніве“ і з „Нівы“. Напрыклад, „Ніва“ — ваш найлепшы прыяцель. Чытайце „Ніву“. Або рэкламныя лозунгі нашай газеты — „Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы“ ці „Распаўсюджвайце „Ніву“ — адзіны ў Польшчы беларускі тыднёвік“. Прыемна, што дзеці і настаўнікі памятаюць пра нашу газету, бачаць у нас сваіх сяброў і памочнікаў. •

Нядаўна школа атрымала ад беластоцкай „Цэпэліі“ новенькія дзіцячыя кросны, выкананыя паводле старых і шырока выкарыстоўваных на вёсках кросен. Мы ўжо раней пісалі, што школа ў Дубяжыне, адзіная ў нашым ваяводстве, вядзе заняткі ручной працы пад наглядам беластоцкай „Цэпэліі“ і спецыялізуецца ў народным рукадзеллі. Пазнаёміўшыся з вынікамі працы дзяцей з Дубяжына, „Цэпэлія“ прыслала дзецям яшчэ і гэтыя кросны, каб навучыліся ткаць народныя вырабы.

Першай навучылася ткаць на кроснах Мажэна Томчук. Вучылі яе гэтай складанай дзейнасці вясковыя жанчыны Надзя Бандарук і Анна Яканчук разам з настаўніцай Валянцінай Шарко.

У апошнія гады вучні школы зрабіліся вельмі актыўнымі ва ўдзеле ў розных конкурсах. І вынікі прыйшлі хутка. Сёлета ў ваяводскім конкурсе рускай мовы вучаніца 7 класа Марыя Томчук заняла трэцяе месца, а Андрэй Аверчук таксама быў адным з 12 лаўрэатаў, якія мелі права паступіць у сярэднія школы без экзаменаў. Ён здаў дакументы ў бельскі беларускі ліцэй.

У школьным конкурсе беларускай песні Яўген Шаратуха і Славік Ваўранюк, спяваючы ў дуэце, занялі другое месца, а ў конкурсе беларускай прозы і паэзіі Марыя Хмур заняла трэцяе месца.

У ваяводскіх элімінацыях агульнапольскага конкурсу савецкай паэзіі і прозы Івона Амельянюк заняла 5 месца.

За ўдзел школы ў конкурсе ведаў аб моры і мараплаванні Беластоцкі акруговы саюз мараплавання прызнаў школе тры месцы ў маладзёжным лагеры мараплаўцаў. Паедуць Кася Шарко, Івона Томчук і Эля Федарчук. Апрача дзяцей з Дубяжына, з нашага рэгіёна ў гэты лагер паедзе двое дзяцей з Дубічаў Царкоўных і трое дзяцей са школы ў Малевічах каля Саколкі.

Праявілі сябе ў конкурсным спаборніцтве і дубяжынскія гарцэры. У агульнапольскім турніры дружын на заваяванне права насіць адзнаку „Сярэбранай лілійкі“ ўдзельнічалі „Пломыкі“ — шасцікласнікі. Спаборніцтвы адбываліся ў Бельску. І тут права насіць „Сярэбраную лілійку“ на трыццаць дружын атрымалі вучні школы № 3 у Бельску і шасцікласнікі з Дубяжына, якія працуюць пад кіраўніцтвам настаўніцы Валянціны Себясевіч.

Дубяжынскія гарцэры самі зрабілі сабе ў школе „гарцувку“: адрамантавалі паддашша, выкарыстоўваючы яго спецыфіку нахілу сцен, вельмі цікава яго ўдэкаравалі. Ёсць тут і гарцэрскае вогнішча (хоць бярозавыя паленні падсветліваюцца электрычна), бярозавыя пянёчкі замест табурэтак, розныя гарцэрскія значкі і знакі ўпрыгожваюць сцены. А на цэнтральным месцы — партрэт патрона дружыны — Тадэуша Касцюшкі. Гэты партрэт намаляваў адзін з дубяжынскіх дарослых сяброў гарцэраў Мікалай Себясевіч. Нямала тут напрацаваліся гарцэры а ініцыятарам усяго быў васьмікласнік з Раек Веслаў Томчук. Нельга не адзначыць, што ў гэтай школе ўсе дзеці належаць да ЗГП.


Мажэнка Томчук першая навучылася ткаць на новых кроснах.

Удзельнічалі дзеці з гэтай школы і ў ваяводскім конкурсе дзіцячых малюнкаў. Іх працы былі закваліфікаваны да цікавейшых і вісяць на выстаўцы ў беластоцкай філармоніі.

Цяпер дзеці ўжо адпачываюць. Хто паехаў у лагер, хто проста дапамагае бацькам у полі і дома, а ў вольны час бегае ў лес па ягады, ці на рэчку пазагараць. Жадаем усім дзецям добра адпачыць, набрацца новых сіл, здароўя, каб у верасні з ахвотай брацца за вучобу ў старэйшым класе.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

## Вучнёўская творчасць

ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

*Завуць мяне Аня Дзмітрук. Я вучуся ў шостым класе падставовай школы ў Гародчыне, а жыву ў Ляхах. Я люблю вывучаць беларускую мову. Мне 14 год. Вучыць нас беларускай мове настаўніца Ірына Юрчук.*

*„Зорачка“! Высылаю Табе свой верш. Надрукуй.*

### ЗЯМЛЯ

*Зямля зялёная,*
*Прыгожая зямля.*
*На ёй дрэвы растуць*
*І птушкі пяюць.*
*На ёй кветкі белыя*
*І трава зялёная...*
*А ці шчасце*
*Па ёй плыве,*
*Як лебедзі па вадзе?*

## Загадкі

I

Хоць без ног высока скача,
паспрабуй зрабіць удар.
Не дарма яго баіцца
Нат найлепшы варатар.

II

Хоць без рук
плаціны мосціць,
астравы сярод азёр.
Ад пагоні уцякае
ў свой падводны калідор.

III

Трэ Макар рукамі вушы,
Трэ рукамі шыю, твар.
Бо ў гародзе, каля грушы
Пакусаў яго . . . . . . . .

**Л. Танкевіч**

*Адгадкі: Мячык. Бабёр. Камар.*




* ✼ *

— З чаго робяць рыбацкія сеці? — пытаецца малы Пеця.

— З вялікай колькасці дзірак, толькі іх звязваюць паміж сабою, — адказвае старэйшы брат.

* ✼ *

— Абвінавачаны, — кажа суддзя, — вы ўкралі гадзіннік. Раскажыце, як гэта было.

— Ведаеце, — пачаў высняць абвінавачаны, — іду я так, іду і бачу, гадзіннік ідзе. І тут я падумаў: „Ці не пайсці нам разам?“

* ✼ *

— Як звалася каралева, якая была прычынай вайны ў Старажытнай Грэцыі, — пытаецца настаўнік.

— Не ведаю, — гаворыць Гэленка.

— Я табе памагу. Яна так называлася, як і ты.

— Няўжо? — дзівіцца Гэленка. — Таксама Краўчук?

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90-А, кв. 17. Сярожа Палазнік, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 1. Дзіма Мікушын, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 67, кв. 68. Алёша Халадзінскі, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, пер. Ізвозны, 3, кв. 6. Максім Мурашка, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 15, кв. 19. Дзіма Столяр, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 13, кв. 24. Ігар Манчукевіч, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 2, кв. 33. Дзяніс Кульбакоў, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 10, кв. 38. Віталі Ісідовіч, 8 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 3, к, 2, кв. 14. Аксана Паповіч, 4 клас.

* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 150, кв. 40. Юля Лапкоўская, 5 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 2-А. Таня Дылюк, 2 клас.

* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 45, кв. 4. Ірына Карыткіна, 5 клас.

* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 45, кв. 11. Іра Гурбовіч, 2 клас.

* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 45, кв. 2. Ілья Лапцік, 3 клас.

* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Лермантава, 45, кв. 8. Віталь Каваленка, 5 клас.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 1, кв. 6. Таня Атрашкевіч, 4 клас.

## АДГАДАНКА



**Будаўнікі будуюць дом. Ужо паставілі 15 м. у вышыню. Кожны дзень сцяна ўзрастае на 2 м. Сёння — раніца ў панядзелак. Дом будзе закончаны пад канец працы ў пятніцу. Якой вышыні будзе дом?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 12 ліпеня а 18-й гадзіне.

### НЕ ШУКАЙ

Словы А. Русака
Музыка І. Любана

Не шукай ты мяне
Каля жытніх палёў,
Не шукай...
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай...

Не кажы ты мне слоў,
Што не грэюць цяплом.
Не кажы...
Калі сэрца тваё
Не палае агнём,
Не кажы...

Не спявай пад акном
Ты мне песні сваёй,
Не спявай...
Калі ў сэрцы не я
Буду песняй тваёй,
Не спявай...

Не шукай ты мяне
У цішы вечароў,
Не шукай...
Калі к сэрцу майму
Ты дарог не знайшоў,
Не шукай...







### ЯКАЯ РОЗНІЦА?

— Гэта боршч ці пампы? — спытаў абураны наведвальнік сталовай у кухара.

— А вы што, не можаце адрозніць?

— Не...

— Дык якая вам розніца?.. — абыякава адказаў кухар.

### СМЯЮЦЦА ФІЛОСАФЫ

У Дыягена запыталіся:

— Чые вочы бачаць больш усяго?

— Вочы зайздросніка, — адказаў ён, — таму што яны бачаць нават тое, чаго ў цябе няма.

### ВУЧАЦЦА ДЗЕЦІ ЛІЧЫЦЬ

У падрыхтоўчым класе вясковай школы настаўніца звяртаецца да шасцігадовай Воленькі:

— Воленька, колькі будзе, калі да аднаго дадаць яшчэ адзін.

Воленька задумалася. Настаўніца дапамагае.

— Вось у вас ёсць карова і ў суседа ёсць карова. Колькі гэта будзе?

— А ў суседзяў каровы няма, у іх толькі гусі.

### ШАХМАТЫСТ

— Ці праўда, што Пешкіну ніхто яшчэ не змог паставіць мат?

— Праўда!

— А як гэта яму ўдаецца?

— Вельмі проста: ён здаецца, не дачакаўшыся мата.

Хоць на нагах ледзь трымаўся, але зайшоў надта далёка.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Калі забываюцца сучасныя класікі?

— Як толькі „пазбаўляюцца“ высокіх пасад.

*

Тэхаскі фермер, які зрабіў злачынства, тэлеграфуе свайму адвакату, каб той яго абараніў і пасылае яму тысячадоларавы ганарар. Адвакат адразу ж тэлеграфуе ў адказ:

— Прыеду скорым поездам. Кропка. Вязу з сабой трох сведак. Кропка.

*

— Мілая пані, я хацеў бы ажаніцца з вашай дачкой.

— А колькі ў вас грошай на банкаўскім рахунку?

— Вы мяне няправільна зразумелі. Я хачу не купіць вашу дачку, а ажаніцца з ёю.

### ВЕЕР

Гарачыня. Аж млеюць
Кусты ў рачной даліне.
Дзяўчына пышны веер
Купіла ў магазіне.

Махнула пры спякоце
Прыгожым веярочкам, —
Ураз ён на ашмоцце
Рассыпаўся, браточкі.

— Назад тавар вазьміце!
— Вы ў нас яго купілі? —
Пытае прадаўшчыца, —
Інструкцыю чыталі?

Ах, не?! Тады прабачце,
Інструкцыю чытайце:
„Перад сабой трымайце,
А галавой махайце“.

**Анань Верабей**

З „Весніка Задрыпоніі“

### НОВАЕ АБ ДОЎГАЛЕЦЦІ

Невядомую заканамернасць выявілі вучоныя Ачуцінава. Было эксперыментальна ўстаноўлена, што канцылярскія пацукі жывуць куды даўжэй ад звычайных.

### ПАД ПАГРОЗАЙ СУДА

У пастаянным страху трымае свайго мужа грамадзянка С. Аплявуха, пагражаючы прыцягнуць яго да суда за разбурэнне паветраных замкаў.







## Курёзы

### ВОСЬ І ЧАРГА ПАДЫЙШЛА...

У англійскай пары Карвераў сынок нарадзіўся з гэтак званай „заячай губою“. Калі Дэвіду было тры месяцы, яго, каб выправіць гэты прыродны дэфект, апераравалі і паставілі на чаргу для паўторнай аперацыі.

Нарэшце бацькі Дэвіда атрымалі паведамленне, што чарга падыйшла. Яно, вядома, добра. Тым больш, што цяпер бацькам не трэба самім прывозіць Дэвіда да хірурга — ён можа і сам да яго завітаць. Бо пакуль чарга рухалася, час таксама на месцы не стаяў: Дэвіду вось пайшоў ужо чацверты дзесятак.

### ТАКСАМА „НЕАБМЕЖАВАНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ“

Аб'явіўшы, што яму патрэбны 300 грузчыкаў, паштовае ўпраўленне Чыкага нарабіла гэтым дужа рэйваху: на пунктах, дзе па гэтай аб'яве праводзіўся набор на работу, пачалося стоўпатварэнне — туды прыбыло 50 тысяч чалавек.

Урэшце, для „краіны неабмежаваных магчымасцей“ гэта не такое ўжо і дзіва. Там і лепшае бывае. Вось толькі работу не кожны дастаць можа.



**Каб трапіць у дурное становішча, часам дастаткова сказаць што-небудзь разумнае.**